ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 28 (2554)
ПЯТНІЦА
9
ліпеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Кажуць, няма лекаў, мацнейшых за час. Але ёсць сіла, што здольна перамагчы і яго. Гэта памяць людская!

Мы помнім! Мы не забудзем!—нібы гавораць людзі, што кожны ліпень, ужо дваццаць сёмы раз прыходзяць да абеліскаў загінуўшым, якія стаяць на нашай зямлі нібы вартавыя.

Да помніка воінам і партызанам ля возера Нарач 3 ліпеня сабраліся дзесяткі тысяч жыхароў з навакольных вёсак, ветэраны Айчыннай вайны, госці з Мінска. Сабраліся, каб аддаць даніну павагі сваім бацькам, сынам, братам і сёстрам, якія загінулі дзеля таго, каб убачылі сонечныя промні, блакіт неба і зеляніну палёў мы сёння.

Глядзіш на юнакоў, што схілілі галовы перад помнікам, і нібы чуеш радкі паэта:

Яны ляжаць на варце міру,
А іх ахоўваюць сыны.



Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

ведзена — «Наш калгас ад з'езда да з'езда», «Мы сёння тут не на парадзе, мы к камунізму торым шлях», «Планы партыі — планы народа», «Камуністы, наперад!» і іншых.

Зараз у Пастаўскім раёне ў гуртках мастацкай самадзейнасці ўдасканальваюць свае здольнасці і таленты, павышаюць мастацкае майстэрства больш чатырох тысяч чалавек. Сапраўдную любоў і павагу заваявалі Пастаўскі народны тэатр, Груздаўскі цымбальны аркестр, калектывы мастацкай самадзейнасці Камайскага, Магунскага, Палескага, Дунілавіцкага і іншых клубных устаноў. Больш дваццаці агітацыйна - мастацкіх брыгад абслугоўваюць калгаснікаў і рабочых саўгасаў у гэтыя дні. Іх выступленні можна бачыць не толькі ў клубах, але і на сенажацях, у полі, у час абедзеннага перапынку на прадпрыемствах.

Мастацкае майстэрства такіх калектываў, як цымбальны аркестр Груздаўскага сельскага клуба, драматычныя калектывы Цешалоўскага і Камайскага сельскіх дамоў культуры вырашана ўзняць да такога ўзроўню, каб можна было прадставіць іх да прысваення звання народных.

— Мы ўжо даўно памагаем гэтым здольным і актыўным калектывам, — расказвае рэжысёр Пастаўскага народнага тэатра Віктар Стахоўскі. — «Паўлінка» ў выкананні самадзейных артыстаў з Цешалоўскага Дома культуры атрымала высокую ацэнку на абласным аглядзе сельскіх драматычных калектываў. Плануем адкрыць на базе нашага тэатра тэатральную студыю. Тады дапамога драматычным калектывам нашага раёна будзе больш дзейснай.

Па пяцігадовым плане развіцця культуры прадугледжана пры Пастаўскім РДК адкрыць студыю прыкладнога мастацтва, дзіцячую харэаграфічную студыю, стварыць аркестр народных інструментаў. У Сяргеевіцкім сельскім клубе будзе створаны самадзейны тэатр сатыры і гумару, у Варапаеўскім Доме культуры — тэатр юнага гледача, у раённым Доме культуры — агіттэатр і лялечны тэатр. Філіялы лялечнага тэатра пачнуць працаваць у Варапаеве і Лынтупах. Намечана ажыццявіць шэраг мер, каб умацаваць агітацыйна - мастацкія брыгады, а шаснаццаць з іх ператварыць у пастаянныя, з тэатралізаванымі тэматычнымі праграмамі.

Цяпер у раёне налічваецца васемнаццаць прыклубных бібліятэк. На працягу пяцігодкі ўсе яны будуць ператвораны ў самастойныя сельскія бібліятэкі, іх кніжны фонд намнога ўзрасце. На прамысловых прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах акрамя таго прадугледжана адкрыць больш пяцідзесяці перасоўных бібліятэчак і філіялаў. На базе Груздаўскай сельскай бібліятэкі адкрыецца школа перадавога вопыту па атэістычным выхаванні працоўных, Чарнянскай — па прапагандзе грамадска - палітычных ведаў, Палескай і Навасёлкаўскай — па інтэрнацыянальным выхаванні моладзі.

Прадугледжана ў новым пяцігадовым плане і значнае пашырэнне кінасеткі раёна. У клубных установах калгасаў «Дружба», імя Дзяржынскага, «Ленінскі шлях», «Уперад», «Новае жыццё», «Гігант», імя Калініна будзе ўстаноўлена шырокаэкранная кінаапаратура. У многіх клубах старая кінаапаратура таксама заменіцца новай. Адкрыецца дадаткова некалькі кінаперасовак. Усё гэта дасць магчымасць намнога палепшыць якасць паказу кінафільмаў, абслугоўванне сельскага кінагледача. Шляхам індывідуальнага навучання і навучання ў Мінскім і Астрынскім прафесіянальна - тэхнічным вучылішчах будзе дадаткова падрыхтавана для кінасеткі раёна пяцьдзесят кінамеханікаў і іх памочнікаў.

За ажыццяўленнем усёй гэтай вялікай праграмы культурных пераўтварэнняў у раёне будзе сачыць спецыяльны міжведамасны савет. Ён скаардынуе работу дзяржаўных, прафсаюзных і калгасных устаноў культуры і кіно, будзе абагульняць і распаўсюджваць іх вопыт, правільна фарміраваць кінарэпертуар і рэпертуар мастацкай самадзейнасці і г. д.

Сесія Пастаўскага раённага Савета параіла аналагічныя планы развіцця культуры распрацаваць у кожным сельсавеце.

Днямі ініцыятыва пастаўчан атрымала высокую ацэнку на калегіі Міністэрства культуры, у Белсаўпрофе і Камітэце па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў рэспублікі. Прынята сумесная пастанова, накіраваная на тое, каб вопытам пастаўчан зацікавіць усе раёны, каб пяцігадовыя планы развіцця культуры былі распрацаваны і прыняты паўсюдна.

**П. ДУБОВІК,**
**начальнік аддзела клубнай работы і народнай творчасці Міністэрства культуры БССР.**

---

рамі, як Ф. Шмакаў, З. Канапелька, Г. Маркіна, Г. Дубаў, Я. Глебаўская, пераймаючы этычныя ўзоры служэння мастацтву Ц. Сяргейчыка, А. Труса, А. Шэлега, М. Звездачотава, І. Матусевіча, моладзь коласаўцаў можа і павінна працаваць яшчэ больш плённа, не задавальняцца дасягнутым.

У ацэнцы асобных спектакляў прамоўцы часам разыходзіліся і на розныя пазіцыі. Напрыклад, адны лічаць безумоўным поспехам тэатра зварот да драматургіі Маякоўскага і Шэкспіра, вітаюць карнавальны характар відовішча, прапанаваны рэжысурай Б. Эрына і С. Казіміроўскага ў спектаклях «Клоп» і «Многа шуму з нічога», адзначаюць імправізацыйную лёгкасць выканаўцаў роляў, якім даводзілася тут паказваць здольнасць пераўвасабляцца ў палярныя персанажы, карыстацца прыёмамі пантамімы і нават цырка, спяваць, танцаваць, а гэта само па сабе пашырае дыяпазон акцёрскіх магчымасцей. Апаненты сцвярджалі, што ў гэтых спектаклях ёсць «перабор» у адкрытай тэатральнасці пастановак, рэжысёрскія лішкі, якія, здараецца, прымушаюць акцёраў збочваць ад паглыблення ў характары, створаныя драматургамі. Хто меў рацыю? Мабыць, слушна гаварылі прадстаўнікі тэатра, сцвярджаючы думку пра неабходнасць правяраць гучанне сцэнічнага твора ў розных аўдыторыях гледачоў. А «Клоп» і «Многа шуму...» як раз добра ўспрымаюцца публікай.

Гаварылася пра жанравую еднасць у кожным спектаклі, якой часам бракуе коласаўцам. Напрыклад, у «Салаўіную ноч» уносяцца сентыментальныя ноты, хоць ні п'еса, ні агульная рэжысёрская задума гэтага не мелі на ўвазе. Бывае, парушае такую еднасць эскізны характар выканання роляў, што, на думку прамоўцаў, адчуваецца ў «Амністыі», дзе побач з па-акцёрску завершанымі эпізадычнымі персанажамі (Ц. Сяргейчык, В. Петрачкова) пакуль што слаба акрэслены як сатырычныя тыпы цэнтральныя вобразы.

Было закранута і вельмі надзённае для тэатра, які працуе на перыферыі, пытанне — пра беражлівае захаванне ў рэпертуары самых значных па ідэйна - мастацкіх вартасцях спектакляў.

**Коласаўцы вымушаны былі амаль без рэпетыцый у новым для іх тэатральным памяшканні ў Мінску паказваць «Шостае ліпеня». Таго гучання, якое меў калісьці гэты маштабны спектакль, не было, акцёры згубілі раней выпрацаванае адчуванне праўды ва ўсіх момантах сваіх паводзін, празмерна хваляваліся, фарсіравалі гук голасу, дзейнічалі няўпэўнена. Мабыць, таму адкрыццё гастроляў расчаравала прыхільнікаў коласаўскай трупы.**

**Вялікія намаганні робіць калектыў, каб захаваць славутага «Несцерку», але і тут не абыходзіцца без страт. Фактычна кожны ўвод новага выканаўцы — гэта аднаўленне спектакля. Патрэбен рэжысёр - педагог, які б сачыў за жыццём такой пастаноўкі, умеў бы тонка рэстаўрыраваць першапачатковы малюнак, а гэта як з фрэскамі — нельга толькі механічна пераафарбоўваць вядомае, трэба паглыбляцца ў задуму аўтараў першай рэдакцыі спектакля.**

Патрэбны і арганізацыйныя захады: ва ўмовах Віцебска тэатр можа «адыграць» п'есу на працягу аднаго сезона. Упраўленне па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР магло б пашукаць сродкі, якія памаглі б перыферыйным трупам гадамі захоўваць самыя каштоўныя работы. Коласаўцы — тым больш!

У абмеркаванні творчых вынікаў сёлетніх гастроляў тэатра імя Я. Коласа ў Мінску ўдзельнічалі пісьменнік Ю. Гаўрук, тэатразнаўцы Т. Арлова, У. Няфэд, С. Пятровіч, А. Сабалеўскі, А. Саннікаў, старшы выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага А. Каляда, прадстаўнік Міністэрства культуры БССР А. Герштэйн, дырэктар тэатра, заслужаны дзеяч культуры БССР Г. Асвяцінскі, галоўны рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР У. Стэльмах, рэжысёр Б. Эрын і іншыя.

---

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ЖЫВАПІС МІКАЛАЯ ГЕ Ў МІНСКУ



МІКАЛАЙ ГЕ. «Аўтапартрэт». Масла.

ГЭТА ПАДЗЕЯ — упершыню сабраны пад адным дахам творы Мікалая Ге з розных музеяў краіны. І стала магчыма прасачыць асноўныя вяхі шляху мастака. А галоўнае — адчуць, як далёка наперад глядзеў творца...

Сёння асабліва ясна, які гэта магутны мацярык у акіяне рускага жывапісу — Мікалай Ге. На яго выстаўцы — і «прадчуванне» Урубеля, і «прадчуванне» Барысава-Мусатава, і прарыў далёка наперад за рэпінскага вучня Сярова (асабліва калі глядзіш эскізы да «Распяцця»). У Ге не эксперымент дзеля эксперыменту. Ён у яго — натуральны. Падказаны мысліцельнай задачай. А не спадзяваннем на тое, што думкі, маўляў, прыйдуць пасля — знайсці б толькі, «назапасіць» арыгінальную форму... Праз абалонку «евангелізму» Ге ідзе да агульначалавечага. Калі глядзіш «Што ёсць ісціна?», адчуваеш: Пілат і Хрыстос — толькі знешняя абалонка (менавіта Ге зрабіў гэтую абалонку такой тонкай, што яна «рвецца» на нашых вачах). А хто ж яны тады пад гэтай абалонкай?.. Проста людзі... Проста ісціна і проста самаўпэўненая абмежаванасць.

**Вось як «прачытаў» карціну Леў Талстой: «На карціне адлюстраваны зусім з гістарычнай вернасцю той момант, калі Хрыста вадзілі, мучылі, білі, цягалі з адное кутузкі ў другую, ад аднаго начальства да другога і прывялі да губернатара, дабрэйшага хлопца, якому няма справы ні да Хрыста, ні да яўрэяў, ні да, яшчэ меней, да якойсьці ісціны, пра якую яму, знаёмаму з усімі вучэннямі філосафаў Рыма, тлумачыць гэты абарванец, яму справа толькі да вышэйшага начальства, каб не памыліцца перад ім. Хрыстос бачыць, што перад ім чалавек, які заблудзіўся, заплыў тлушчам, але ён не рашаецца адвергнуць яго па адным выглядзе і таму пачынае выказваць яму сутнасць свайго вучэння, але губернатару не да гэтага, ён гаворыць: «Якая такая ісціна» і адыходзіць. І Хрыстос з сумам глядзіць на гэтага непранікальнага чалавека. Такое было становішча тады, такое становішча тысячы, мільёны разоў паўтараецца заўсёды, усюды паміж вучэннямі ісціны і прадстаўнікамі гэтага свету. І гэта выказана на карціне. Гэта... хапае за сэрца ўсякага таго, у каго ёсць сэрца». Сённяшнія даследчыкі твораў Ге бачаць яшчэ ў абліччы Хрыста строгасць, гнеў. Зусім справядліва. Дарэчы, П. Гнедзіча тут непакоіць «тып Хрыста» — сучаснік мастака адчувае, як лопаецца „абалонка Хрыста, як з гэтай абалонкі вылузваецца «брыдкае качаня» дэмакратызму. І Гнедзіч не без раздражнення фармулюе: «Хрыстос адлюстраваны азлобленым злачынцам». З якой жа цяжкасцю расстаецца ўяўленне сучаснікаў (ды і нашчадкаў!) з тым, што не Хрыстос, а — проста чалавек!..**

Істотны ўрок Мікалая Ге — уменне вучыцца. І не толькі на пачатку шляху. Цяжка сёння меркаваць пра меру няўдачы Ге ў карціне «Міласэрнасць» — Хрыстос у выглядзе жабрака перад кісейнай паненкай, бо мастак папросту саскроб карціну з палатна. Дарэчы, менавіта на гэтым палатне напісана «Што ёсць ісціна?» Але крызіс, які перажыў Ге, прымусіў яго па-новаму паглядзець і на ўласны жывапіс. Нават досыць цярпімы да рознага роду навацый Бенуа называў жывапіс Ге варварскім. Усё гэта трэба было вытрываць. Калі ў позніх перасоўнікаў назіралася здрабненне грамадскага зместу, Мікалай Ге востра гэта перажываў. І — не складаў мастакоўскай зброі, перакідваў мост у будучыню, прадчуваючы многія ідэі рэалізму XX стагоддзя. Ён гаварыў вучням: «...замест мастацтва даўно на выстаўках паказваецца адно рамяство, задача якога — вытвараць да падману падобнае на натуру...»

Выстаўка твораў Мікалая Ге экспанавана ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР пасля паказу ў Маскве і Кіеве. Колькасць гледачоў на ёй—таксама ўрок Мікалая Ге, які пісаў Таццяне Львоўне Талстой: «Карціна не слова, яна дае адну хвілю, і ў гэтай хвілі павінна быць усё, а няма—няма карціны...».

С. КАРОТКІ.

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ПЛЕМЯ МАЛАДОЕ, НЕЗНАЁМАЕ!

*Скончыліся дзяржаўныя экзамены ў мастацкіх ВНУ і вучылішчах рэспублікі. Як праходзілі гэтыя экзамены, як ацэньваюць работы маладых акцёраў, мастакоў, танцоўшчыкаў, музыкантаў іх педагогі і старэйшыя калегі? Пра гэта — рэпартаж, змешчаны ніжэй.*

## У СВЕЦЕ ВОБРАЗАЎ...

Для студэнтаў тэатральнага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ад дзяржаўнага экзамена залежыць далейшы лёс. У зале, акрамя камісіі, прысутнічаюць журналісты, драматургі, акцёры і — галоўнае—рэжысёры.

І ўсё ж хвалявання пачаткоўцаў не адчуваеш, калі на сцэне ідзе вадэвіль па п'есе Міхася Чарота «Мікітаў лапаць» (пастаноўка В. Раеўскага). Так заўзята лаюцца суседкі (студэнткі Н. Качаткова і Т. Саўчанка). Так шчыра пакутуе Яўмен (В. Смірноў), знайшоўшы згублены ля яго хаты лапаць,—ці не да яго жонкі ішоў уладальнік гэтага лапця? Так захоплена марыць Мікіта (В. Грушоў) пра шляхі да свайго будучага шчасця («Пачне Саўка бліны есці, я як крыкну, Саўка блінамі падавіцца, а Зося мая будзе»)...

У зале—выбухі смеху. Артысты іграюць з асалодай.

Пачуццё гумару, пластыка і схільнасць да эксцэнтрыкі—вось чаго, пераважна, вымагала ад іх пастаноўка жарту-вадэвіля. Прыблізна тыя ж якасці былі патрэбныя і ўдзельнікам спектакля «Лазня» (рэжысёр Б. Луцэнка), але, вядома, тут перад імі стаяла больш складаная задача—прачытаць па-сучаснаму класічны твор Маякоўскага. Тут кожны акцёр павінен умець і іграць рэальны характар, і яго гіпербалізаваныя рысы перадаваць пераканаўча. І маладыя выканаўцы—А. Гаманюк (Пабеданосікаў), А. Уладамірскі (Аптымісценка), Ю. Газіеў (Веласіпедкін), С. Краўчанка (Іван Іванавіч), ды і амаль усе іншыя часцей за ўсё спраўляліся з няпростымі сцэнічнымі задачамі.

— Вельмі цікавы атрымаўся спектакль,—сказаў нам драматург Андрэй Макаёнак, які прысутнічаў на экзамене.—Я сачу за кожным выпускам інстытута, і мне здаецца, што агульны ўзровень гэтага выпуску больш роўны, чым у мінулыя гады. Усе студэнты, відаць, не толькі разумеюць твор, а і ведаюць яго сцэнічную гісторыю. Разумныя, дапытлівыя, патрабавальныя. Поспех «Лазні»—вынік сур'ёзнай творчай работы педагогаў.

Педагогі вучылі сваіх выхаванцаў на самым разнастайным і складаным рэпертуары. Сярод дыпломных спектакляў—«Тры сястры» А. Чэхава (пастаноўка У. Маланкіна) і «Чалавек на ўсе часы» Р. Болта (рэжысёр В. Раеўскі).

— Гэтыя спектаклі вельмі складаныя для неспрактыкаваных артыстаў, — расказвае мастацкі кіраўнік курса Уладзімір Маланкін.—Мы разумелі гэта і ўсё ж вырашылі іх паставіць, бо лічым, што такая драматургія—надзвычай добрая школа. Працавалі амаль два гады. На нашу думку, выпускнікі паказалі даволі шырокі дыяпазон здольнасцей. Праўда, псіхалагічную глыбіню ролі пакуль яшчэ яны раскрываюць не вельмі ярка, затое ў камедыях, завострана сатырычных, адчуваюць сябе значна лепш.

— Так, нашым студэнтам яшчэ прадстаіць сур'ёзная праца над раскрыццём складаных псіхалагічных вобразаў,—лічыць і Валерый Раеўскі,—хоць сярод іх ёсць людзі з багатымі дадзенымі для плённай сцэнічнай дзейнасці. У іх усё яшчэ наперадзе. А працаваць яны любяць...

— Мне было прыемна працаваць з гэтым курсам,—гаворыць Барыс Луцэнка. — Студэнты разумныя, шмат чытаюць, шмат чым цікавяцца, разумеюць рэжысёрскую задуму. Для акцёра школа майстэрства не канчаецца ў сценах інстытута. Добра, каб яны сустрэлі на сваім шляху чулых рэжысёраў-педагогаў...

Так гавораць педагогі. Старшыня дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі народная артыстка СССР Аляксандра Клімава значна вышэй ацэньвае дасягненні ўдзельнікаў спектакляў «Тры сястры» і «Чалавек на ўсе часы». Яна сцвярджае, што ў гэтых спектаклях ёсць сапраўды цікавыя акцёрскія работы—С. Краўчанка ў ролі Кулыгіна, Ю. Лясны (Просты чалавек), А. Уладамірскі (Рычард Рыч), Т. Саўчанка (Эліс Мор).



Сцэна з дыпломнага спектакля «Мікітаў лапаць».

— Цікавымі актрысамі абяцаюць стаць Н. Качаткова, А. Ельяшэвіч, Л. Волкава, — гаворыць Алякандра Іванаўна.—Спадабаліся мне ў асобных ролях ці эпізодах В. Грушоў, Ю. Газіеў, А. Гаманюк, Л. Лабуць. Вельмі арганічны ў вадэвілі В. Смірноў, але вось у Салёным яму не ўдалося раскрыць падтэкст. Хацелася б папярэдзіць маладога акцёра і ад штампаў, якія пачынаюць ужо ў яго з'яўляцца... Інстытут не выхаваў у будучых артыстаў арганічнага адчування хараства сцэнічнага слова, а гэта недахоп, які цяжка дараваць. Гэта, бадай, мая адзіная сур'ёзная заўвага. Радуе, што педагогі абудзілі ў вучнях пачуццё ансамбля.

...Яны неўзабаве пачнуць самастойны творчы шлях. Мабыць, назаўсёды захаваюцца ў іх душы і хваляванні чэрвеня 1971 года, і тыя добразычлівыя і патрабавальныя парады, якія ім давалі настаўнікі і экзаменатары.

## ...ФАРБАЎ

У той час, калі ў выпускнікоў тэатральнага факультэта ўжо ішлі дыпломныя спектаклі, у мастацкіх майстэрнях інстытута клаліся апошнія мазкі на жывапісныя палотны, заканчвалі афармленне планшэтаў «мэблёўшчыкі», рабілі апошнія швы мадэльеры адзення.

І вось дыпломныя работы прадстаўлены на суд экзаменацыйнай камісіі. Першымі «абараняюцца» жывапісцы.

Высокую ацэнку атрымала работа маладога мастака Р. Лойкі (кіраўнік Н. Воранаў) «На абарону Радзімы». Закончанасць кампазіцыі, унутраная логіка развіцця дзеяння, як адзначылі члены камісіі, сведчаць аб творчым мысленні аўтара.

— Увогуле ўсе работы можна прызнаць здавальняючымі, — гаворыць член экзаменацыйнай камісіі, старшыня праўлення Саюза мастакоў В. Грамыка.—Нядрэнны малюнак, нядблага распрацавана кампазіцыя. Добра і тое, што маладыя мастакі абралі сюжэтамі сваіх твораў сучасныя падзеі. Раней дыпломнікі часцей за ўсё распрацоўвалі гістарычныя сюжэты... Аднак трэба пажадаць маладым мастакам—жывапісцам!—каб яны больш уважліва ставіліся да колеру.

У тым, што колер у мастацтве—кампанент не вонкавы, а ўнутраны, звязаны з самой прыродай мастацкага мыслення, з эстэтычнай культурай творцы, можна было пераканацца, калі свае работы пачалі дэманстраваць выпускнікі аддзялення інтэр'ера і абсталявання. Тут дыпломы ажывалі ў матэрыяле. Гэта значыць, што побач з планшэтамі ставілася сканструяваная дыпламантам зручная лёгкая качалка для дзяцей, крэслы, сталы і г. д. інтэр'еры ў большасці распрацаваны, як кажуць, з выхадам у практыку. Праекты, зробленыя ў макетах, стануць неўзабаве інтэр'ерамі.

Вось студэнт І. Чухраеў прапануе праект інтэр'ера для Дома шлюбу ў Мінску. Здавалася б, урачыста-велічная зала павінна адпавядаць і інтымнай значнасці моманту, светлым пачуццям тых, хто ўступае ў шлюб. Але інтэр'ер выкананы ў шэра-белых халодных тонах, і зала павявае на чалавека холадам.

І наадварот, распісваючы залу для выстаўкі тканін на ВДНГ БССР, выпускнік А. Шустарман так расквяціў інтэр'ер, што на яго фоне цяжка будзе заўважыць тканіну, якая сама па сабе стракатая.

Але сярод дыпломных работ, пра якія тут ідзе гаворка, ёсць і сапраўдныя ўдачы. І сярод іх трэба назваць праект інтэр'ераў і абсталявання музея палехскага мастацтва (аўтар І. Нядзялкоў, кіраўнік Л. Міронава)...

Найбольш яркім, маляўнічым быў другі дзень экзаменаў, калі свае работы паказвалі дыпламанты аддзяленняў мадэлявання і мастацкага афармлення вырабаў тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці. Гэты ж дзень быў найбольш багатым на добрыя адзнакі. Паказ габеленаў ручной працы, роспісу тканін, мадэляў, якія адпавядаюць сучасным запатрабаванням моды і мастацкага канструявання, нярэдка суправаджаўся апладысментамі прысутных у зале. Габелены на тэму «Зімні сон» (аўтар Г. Сычока, кіраўнік П. Масленікаў), «Музыка» (аўтар С. Прокічава, кіраўнік П. Масленікаў), «Скрыпачы» (аўтар Л. Пятруль, кіраўнік І. Ватрушын), «Ансамбль для вуліцы» М. Раманюка, «Адзенне для вуліцы» Т. Халопік (кіраўнік П. Масленікаў), «Адзенне для веснавой вуліцы» студэнткі Л. Маленка (кіраўнік Н. Дуванава) і іншыя былі адзначаны як найбольш закончаныя, гарманічныя.

Мастак — не афарміцель, не ўпрыгожвацель, а арганізатар колеру, матэрыялу, кампазіцыі. Толькі спалучаючы прызначэнне рэчы і яе мастацкі вобраз, можна дасягнуць сапраўднага майстэрства. Асабліва важна памятаць пра гэта мастаку-канструктару.

Спецыялістаў па дызайне рыхтуе аддзяленне прамысловага мастацтва інстытута. І вось выпускнікі гэтага аддзялення трымаюць экзамен на мастацкую сталасць. Залу, дзе праходзіць абарона дыпломных праектаў, запоўнілі хлопцы. Напярэдадні, калі экзамен трымалі мадэльеры, большасць з прысутных складалі дзяўчаты. Аўдыторыя тады, калі можна так сказаць, была больш эмацыянальная. Атмасфера экзамена па дызайне іншая. Нават назвы тэм гучаць крыху сухавата: «Гама балансіровачных станкоў», «Устаноўка для вытворчасці мікрасхем», «Сродак візуальнай інфармацыі на гарадскім транспарце».

Найбольш пытанняў выклікала праца Р. Гаварушкінай — прынцыпова новае рашэнне ў кампаноўцы бытавых радыёпрыбораў. Адзначыўшы некаторыя пралікі, камісія станоўча ацаніла гэтую ў цэлым цікавую і арыгінальную працу.

Высокія адзнакі атрымалі сканструяваная на базе матацыкла дзейная мадэль аўтамабіля, прадстаўленая студэнтам М. Дайнегам, фотапрылады А. Ліса (кіраўнік І. Герасіменка), ручны інструмент для радыёмантажніка Р. Мая (кіраўнік Ю. Галкін).

Большасць праектаў студэнтаў аддзялення мастацкай керамікі і шкла выкананы на аснове традыцый народнага ганчарства. Дэкаратыўныя блюды Ф. Мальцавай (кіраўнік Т. Паражняк), посуд для беларускай кухні Я. Хаміча (кіраўнік В. Гаўрылаў) з керамікі, а таксама дэсертны набор з крышталю В. Чарнушчык (кіраўнік Т. Паражняк) пакінулі самае добрае ўражанне і былі высока ацэнены камісіяй.

І вось абарона дыпломаў закончана. 61 дыпламанту прысвоена кваліфікацыя мастака.

## БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ: Васіль НЕЖЫХОЎСКІ



*Васіль Нежыхоўскі — родам з вёскі Нежыхава, што на Гомельшчыне, недалёка ад Брагіна. Адсюль і яго псеўданім. Але рашэнне падпісваць свае творы другім прозвішчам падказана ў дадзеным выпадку не паэтычным гучаннем назвы роднай вёскі. Больш істотную ролю тут адыграў, відаць, той факт, што аўтар вершаў, якія прапануюцца ніжэй, па прафесіі медык, урач Васіль Паўлавіч Давыдзенка (такое яго сапраўднае прозвішча). І ён не вырашыў канчаткова, якое месца павінна заняць у яго жыцці літаратурная творчасць. Яму за трыццаць, у яго ўжо даволі багатая ўрачэбная практыка, ён звыкся са сваёй працай. Але з другога боку, ён не можа і не пісаць, і выкарыстоўвае для гэтага кожную вольную гадзіну. І хоць сёння мы сустракаемся з Нежыхоўскім у друку ўпершыню, у яго ўжо нямала напісана. Спачатку ён прыслаў мне ў Саюз пісьменнікаў, на кансультацыю, свае вершы і паэмы (паэмы недасканалыя яшчэ, але цікава задуманыя). Потым паказаў свае п'есы... І я змог пераканацца, што маю справу з чалавекам здольным, што Нежыхоўскі піша з прычыны арганічнай унутранай патрэбы выказацца, падзяліцца ў форме мастацкага слова з людзьмі сваімі думкамі і пачуццямі. Пажадаем жа яму поспехаў.*

Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

### ХЛЕБ

О, наша поле — далячынь  
і шырыня да небакраю!  
І перапёлчына ўначы:  
«Быць ураджаю,  
быць ураджаю».  
Люстэркі жніўеньскай расы  
адбілі сонца пазалоту.  
Паспеюць скора каласы...  
Быць намалоту,  
быць намалоту.  
Закрыюць хмары неба сінь,  
завыюць воўкам лютым  
сцюжы.  
І хлеб, што з сонечных  
глыбінь,  
сагрэе душы,  
людскія душы.

### ВЕЦЕР

Светлы ранак або вечар —  
на прасторы родным  
першы нас сустрэне вецер  
подыхам пяшчотным.  
Вее з поўначы ці з поўдня,  
праз сады, лагчыны —  
нашы душы вецер поўніць  
водарам айчыны.

### ВЕСНАВОЕ

Зімовых завірух нуду  
не чую больш за хатаю.  
Паміж пялёсткаў я іду,  
да іх рукой не кратаю.  
Духмяным водарам яны

# «ВЯСНА ПАЭЗІІ» НА ЛІТОЎСКАЙ ЗЯМЛІ

*Гэтае свята паэзіі ў Літве стала ўжо традыцыйным. Штогод, на пачатку чэрвеня, пісьменнікі раз'язджаюцца па рэспубліцы, каб сустрэцца са сваімі чытачамі, наведаць мясціны, звязаныя з жыццём і творчай дзейнасцю буйнейшых мастакоў слова, узбагаціцца новымі ўражаннямі.*

*Гасцямі сёлетняй «Вясны паэзіі» былі туркмен Сапармурат Авесбердыеў, эстонец Арві Сійг, беларусы Анатоль Грачанікаў і Уладзімір Паўлаў.*

*Прапануем увазе чытачоў нізку вершаў літоўскіх паэтаў, удзельнікаў «Вясны паэзіі».*

Альгімантас БАЛТАКІС

## ЛЕНІН У ВІЛЬНІ

Шынялькі і світкі вымачыў пот жандарскі,—
Прамашкі шпікам не даруюць улады.
Крычыць загад голасам царскім:
«Ленін едзе!
Схапіць!
За краты!»
Пракляў стукач свой казённы харч:
Ухекаўся, застудзіўся.
Але не вынюхаў ні слядоў, стукач,
Ні месца, дзе Ленін спыніўся.
Сляды Ільіча не змылі нягоды,
У глебу ўраслі яны на бальшаках.
І Літва назаўсёды,
Да святла і свабоды
Адшукала дарогу па гэтых слядах.

Эўгеніюс МАТУЗЯВІЧУС

## КАЛЯ ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ

За возерам—лясы, лясы —
Падпоркі вечнасці і неба.
У іх жыве спакой асенні,
Імхоў пяшчотны аксаміт,
Народных песняў перазвоны,
І музыка вякоў сівых.

Блакіт нябёсаў і лясоў
Адбіўся ў возеры. Яно
На свет глядзіць блакітным вокам,
Якое ўжо запарушыла
Самотных, ціхіх птахаў пер'е,
Што хутка пададуцца ў вырай.

Над кручай стомлена дубы
Пасталі ў водуме адвечным,
І ціха стогнуць над вадой.
А паміж іх — бярозак жменька,
Яны—нібы струменьчык дыму,
Які плыве з рабін далёкіх.

За возерам — лясы, лясы.
Глядзіць яно блакітным вокам,
Як птушкі ў вырай непазбежны
Ляцяць высока над лясамі.

Альфонсас МАЛДОНІС

## АДПАЧЫНАК

Пяшчотная, ты да мяне прыхінулася квола,
Замарудзіла бег свой часу нябачнае кола,
І знерухомела, як пасля рэйсаў — вагоны,
Як хлебам прапахлыя аўтафургоны.
Узважваў думкі, пачуцці — час, як алхімік строгі,
І сам ён вагаўся, быццам паэт у цяжкія эпохі.
Вырашыў нешта, таемнай надзеяй угрэты:
Зацікалі гучна ўсе гадзіннікі свету,
За вокнамі занялася зара-зараніца,
На дугах тралейбусаў выспелі першыя бліскавіцы,
Стала чуваць, як з кранаў вада у кватэрах хвошча,
Загаманілі разам дзверы, вуліцы, плошчы.
Мы зноўку з табой ляцелі, нібыта світальныя зоры,
Каб заўтра пачуць тое ж самае і спадзявацца на нешта.
Нам раніца ў вочы глядзела
Святлом ліхтара каля дрэва.

Пераклаў А. ГРАЧАНІКАЎ.

Марцэліюс-Тэадорас МАРЦІНАЙЦІС

## КАЗКА КАРАЛЁЎ

*З цыкла «Наіўныя вершы»*

— А калі б памёр,
меў бы я мячык!
Туфлікі меў бы!

...жыў аднойчы кароль,
ён кіраваў зорамі і ветрамі
і аддаваў сонцу загад узыходзіць і заходзіць...

— А калі б памёр,
расчэсваў бы ты мне валасы!
Валасы расчэсваў бы!

...і гэты кароль ішоў аднойчы па дарозе
і знайшоў след ягняці.
Хацеў узяць яго на далонь,
але рассыпаўся след...

— А калі б памёр,
закалыхваў бы ты мяне!
Закалыхваў бы!

...і стары, згорблены кароль
плача зараз ля следа ягняці.

— А калі б памёр!..

●

Вось вам аблокі.
Бярыце аблокі!
Колькі каштуюць яны! Нікольні.
Не ўсё купляецца і прадаецца,
белае воблачка так нам даецца.
Бярыце ваду,
піце здароўе.
Толькі не трэба —
кажу вам зноў я, —
спяшацца працягваць свой медны пятак.
Бярыце дарма. Проста так.
Піце чысцюткае паветра,
якое прырода дае нам прыветна,
валяйцеся на зялёнай траве
без лішніх турбот у галаве...
Я ў горы ўзнімаўся, вялі мяне крокі
з птушынай адвагай да снежных вяршынь.
Піў я здароўе, гладзіў аблокі,
і свята спявала ў мяне на душы.

Пераклаў А. ВЯРЦІНСКІ.

З пошты ЛіМ-а

# А ПАЧЫНАЦЬ ВАРТА З КРЫНІЦЫ...

У мяне вучні часта пытаюцца: «Дзе можна набыць беларускія народныя песні?» Я іх адсылаю ў магазін, а там—нічога або, у лепшым выпадку, выдадзены маленькім тыражом і без нот маленькі зборнік, складзены Арсенем Лісам. Госць Беларусі (ды і не толькі госць), прыйшоўшы ў магазін, можа нават падумаць, што ў нас няма сваіх народных песень. Яму ж не скажуць у магазіне, што адзін Рыгор Раманавіч Шырма сабраў некалькі тысяч песень і што збіраюцца песні пастаянна. Але дзе яны?!

Хацелася б бачыць на прылаўках кнігарняў зборнікі народнай музычнай творчасці, разлічаныя на дарослых, і зборнікі выбраных твораў для дзяцей. Незразумела, чаму так мала выдаецца апрацовак народных песень для хору, ансамбляў, асобных інструментаў, асабліва народных.

Я пачаў сваё пісьмо з пытання аб народнай музычнай творчасці, таму што пытанне гэтае мае непасрэдныя адносіны да праблемы музычнага выхавання ў школе. Як жа мы выхоўваем сваіх вучняў?

На жаль, мы вучым дзяцей толькі іграць, не цікавімся іх густамі, інтарэсамі і адпаведна не выхоўваем любві да музыкі на ўсё жыццё. Перш за ўсё вывучаецца элементарная нотная грамата. Чым хутчэй вучань з гэтым спраўляецца, тым хутчэй садзяць яго за інструмент. Чым раней сядзе за інструмент, тым больш твораў па праграме вывучыць. А значыць, тым лепшая ацэнка на акадэмічным канцэрце. «Што тут мудрыць? Выконвай праграму з вучнем — і яму карысць, і табе аўтарытэт». Але такая методыка ў жыцці сябе не апраўдвае. Бо з выпускаў музычных школ толькі дзесятая часта — самыя таленавітыя вучні — працягваюць музычную адукацыю. Астатнія ж пры такім выхаванні праз некалькі год зусім забываюць тое, чаму іх вучылі.

Галоўны недахоп нашай работы, памойму, у тым, што мы зусім не вучым дзяцей іграць на слых. У афіцыйнай праграме ўпамінаецца аб тым, што трэба вучыць іграць на слых, але практычна ніхто не патрабуе выканання гэтага. Іграць на слых больш цікава і ў пэўным сэнсе лягчэй, чым з нот. А слабым вучням гэта стымул, натхненне, задавальненне. Таму абавязкова, мне здаецца, пачынаць заняткі з дзецьмі ў музычных школах з песеннай народнай творчасці, з маленства знаёмай на слых, дзе ёсць сапраўдныя ўзоры паэтычнасці і хараства, прастаты і мудрасці. А ў нотных зборніках нават для малодшых класаў музычнай школы—толькі ноты.

Вучань не паспеў пасмакаваць прыгажосці простай народнай мелодыі, як яго загружаюць тэхнічнымі практыкаваннямі. Натуральна, што не ўсе вытрымліваюць. Губляюць цікавасць да музыкі, да інструмента, займаюцца без ахвоты.

Я зусім не прыхільнік праграмнага прымітыву. Але да праграмы трэба падыходзіць творча і вучыць кожнае дзіця адпаведна з яго ўзроўнем музычнай культуры і магчымасцямі, паступова развіваючы іх.

Патрабаванні да музычнага выхавання павышаюцца, методыка ўдасканальваецца...

Неабходна вывучаць усё новае, каштоўнае, што ёсць зараз у музычнай педагогіцы, і гэтае лепшае выкарыстаць на практыцы.

**Л. КАЧАНКА,**
выкладчык музычнай школы № 7.

г. Мінск.

# У ГАСЦЯХ У НАСТАЎНІКАЎ

Дзіцячая літаратура — які яе стан на сучасным этапе, якія задачы стаяць перад ёй, над чым зараз працуюць беларускія дзіцячыя пісьменнікі? Пра гэта ішла гаворка на сустрэчы настаўнікаў горада Мінска з дзіцячымі літаратарамі, якая адбылася ў Мінскім гарадскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў.

У госці да выкладчыкаў роднай мовы і літаратуры, якія ў наступным навучальным годзе будуць працаваць у 4—6-х класах па новых праграмах, прыйшлі А. Якімовіч, А. Пальчэўскі, С. Грахоўскі, М. Скрыпка, Ул. Юрэвіч, Хв. Жычка, В. Зуёнак, М. Чарняўскі і Г. Краснапёрка.

А. Якімовіч пазнаёміў прысутных з раздзелам са свайго рамана «Кастусь Каліноўскі». Ул. Юрэвіч, дырэктар музея Янкі Купалы, расказаў аб падрыхтоўцы да 90-годдзя з дня нараджэння народнага песняра, якое будзе адзначацца ў наступным годзе. Хв. Жычка падзяліўся планам выпуску мастацкай літаратуры ў выдавецтве «Беларусь». Супрацоўнікі дзіцячых перыядычных выданняў А. Пальчэўскі (часопіс «Вясёлка»), М. Чарняўскі («Бярозка») і Г. Краснапёрка («Піянер Беларусі») расказалі пра планы сваіх выданняў.

Настаўнікі атрымалі на памяць кніжкі гасцей з аўтографамі.

**П. ВАЛКАВЕЦ,**
загадчык кабінета беларускай мовы і літаратуры Мінскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў.

# ТОЕ, ШТО ЗАСТАЕЦЦА

Вечарам, калі нарэшце сціхае шум ва універсітэцкіх аўдыторыях, і гулкае рэха бяжыць услед за табой па бясконцых калідорах, я паціху адчыняю дзверы актавай залы. Уваходжу. Мяне сустракае прыцемак і толькі ў самай глыбіні залы, на паўасветленай сцэне—некалькі постацей. Ідзе рэпетыцыя студэнцкага тэатра...

— Стоп, стоп! У цябе два сказы праскочылі, быццам не нясуць яны ніякай нагрузкі...

Гэта гаворыць рэжысёр тэатра, заслужаны артыст Латвійскай ССР Аляксандр Міхайлавіч Озераў. Я ўжо не першы раз тут, сёння таксама паціху падыходжу да яго і саджуся побач. Мне падабаецца назіраць, як нараджаюцца вобразы, спектакль пачынае жыць. Але кожны раз не перастаю здзіўляцца той цярплівасці і самаадданасці, з якой працуе ўвесь калектыў на чале з рэжысёрам. Сцэны паўтараюцца зноў і зноў, пакуль не будзе знойдзена вернае рашэнне. І шукаюць яго не толькі «ветэраны» студэнцкага тэатра, але і навічкі.

У час кароткага перапынку Аляксандр Міхайлавіч расказвае, што ўжо трэцяе пакаленне студэнтаў праходзіць праз яго рукі. Спачатку былі студыйная работа, эцюды, тэарэтычныя заняткі. Па ініцыятыве Аляксандра Міхайлавіча пры студэнцкім тэатры былі створаны рэжысёрскія двухгадовыя курсы. Шмат студэнтаў атрымала дыпломы рэжысёраў народных тэатраў.

Асаблівасцю студэнцкага тэатра з'яўляецца і тое, што састаў тэатра хутка змяняецца — праз два або тры гады. Тым не менш толькі А. Озеравым былі пастаўлены «Вестсайдская гісторыя», а ў красавіку 1969 года—«Маладая гвардыя». Увялі многія сцэны, якіх не было ў п'есе «Маладая гвардыя», па гэтаму можна гаварыць аб арыгінальнай трактоўцы гэтага твора калектывам тэатра.

А потым — «Казка аб праўдзе» і новы поспех. Менавіта за спектакль па гэтай п'есе М. Алігер тэатр атрымаў званне лаўрэата рэспубліканскага конкурсу.

— Аляксандр Міхайлавіч, — падыходзіць да нас староста тэатра Вера Кір'янава, — мне сказалі, што заўтра зала будзе свабоднай з васьмі гадзін.

— Ну і выдатна. Папярэдзь усіх, хто будзе заняты ў другім акце.

У старасты клопатаў шмат. Вечна шукае яна свабоднае памяшканне для рэпетыцый, рэквізіт, касцюмы. Сёння яна задаволена, У зале сядзяць нават незанятыя ў сцэнах—цікава!



А. Зартайскі — Антон, А. Касецкі — Максім і Н. Панчанка — Топсік у спектаклі «Дальняя дарога».

Фота Н. КУЗНЯЦОВА.

Нядаўна была паказана прэм'ера спектакля па п'есе А. Арбузава «Дальняя дарога». Гэта адна з першых яго п'ес, уся пранізана светлым лірызмам. Лёгкі налёт рамантызму добра перадае атмасферу першых пяцігодак. Студэнтам п'еса вельмі падабаецца. І не толькі таму, што іграць свайго равесніка заўсёды прыемна, але і таму, што ім, камсамольцам 70-х, блізкія і зразумелыя думкі і пачуцці, клопаты іх бацькоў. Гэты спектакль, як і некаторыя папярэднія («Маладая гвардыя», «Казка аб праўдзе»), — размова са сваім равеснікам праз гады. Гэта выпрабаванне сябе на вернасць і гарт.

І трэба сказаць, што спектакль атрымаўся. Атрымалася размова з гледачом ад імя арбузаўскіх герояў. І цяжка сказаць, хто «размаўляў» лепш. Усе, як кажуць, выкладваліся да канца: і Алег Зартайскі, і Вера Кір'янава, і Наташа Панчанка, і, безумоўна, Анатоль Касецкі. Наогул, калі Анатоль з'яўляўся на сцэне, у зале стаяў рогат, гучалі апладысменты. Ён іграе ў «Дальняй дарозе» нязграбнага знешне, але чулага і добрага ў душы хлапца Максіма Самадзельнага. Анатоль сапраўды палюбіў і зразумеў свайго героя да канца, паказвае яго нам нібы з нейкай ласкавай усмешкай. І гледачы смяюцца і сумуюць разам з ім.

На прафесійную сцэну, можа, пападзе хто адзін з іх, астатнія стануць матэматыкамі і фізікамі, філосафамі і географамі, біёлагамі і журналістамі. Многія з іх, напэўна, яшчэ доўга будуць удзельнічаць у розных народных тэатрах і гуртках. Але творчую атмасферу тэатра яны назаўсёды ўнясуць у сваю працу, у сваё жыццё. А гэта—галоўнае.

**Н. СІНКЕВІЧ,**
студэнтка факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.

Адольф ВАРАНОВІЧ

АПАВЯДАННЕ

# АСЕННІЯ ДАРОГІ

хочаце. Хоць на зламанне галавы». Акапаліся мы ў стажку саломы, сядзім, чакаем. А ноч марозная, месячная. У саломе цёпла, швагра на сон пацягнула, а я сяджу, як дрозд у гняздзе, толькі стрэльба з саломы тырчыць. Раптам — што такое? Заяц! Штыргік, штыргік сабе памалу. Я ціха — свісь! Заяц аж прыўзняўся на лапах, вушамі стрыжэ. Зладжыўся я і — бабах яму па штанах! Як гром пракаціўся. А я яшчэ з другога ствала. Божа мой, што тут сталася! Шваген падхапіўся, нямым голасам крычыць і круга стажка бегае. А я з ружжом за ім, бо не магу зразумець, што здарылася. Ён дзіка азіраецца, мяне не пазнае і яшчэ шпарчэй чэша... Прыснілася яму, бачыш, нешта. Вось цяпер і заікаецца. А зайца я тады ўсё-такі кокнуў. Спытай у Васіля, у швагра. Толькі наўрад ці ён табе скажа што. Не хоча ўспамінаць.

— Чалавеку няшчасце, а вам весела, — умяшалася ў гутарку жанчына ў шэрай хустцы. — Той чалавек перажывае цяпер, нябось! У нашым сяле дзяўчына была, «ры» ніяк не магла вымавіць. Ну і прывучыла сябе абыходзіць словы, дзе гэта «ры» ёсць. Замуж выйшла. Мала хто і здагадваўся, што Зіна так гаворыць. Але ўсё ж папалася адзін раз на язык нядобраму чалавеку. Папрасіла ў брыгадзіра каня сена прывезці. Брыгадзір дазволіў узяць кабыліцу, якую Ракетай называлі. На полі не злавіць, а ў аглоблі ўпічэміш, не падбяжыць ніколі. Нага за нагу перастаўляе.

— А-а гэта, напэўна, у шостай брыгадзе? — спытаў малады хлопец, што прытрымліваў на каленях руказак з яблыкамі.

— Але. А вы што, гасцілі там?

— Ды не. Нас прыслалі на месяц з завода.

— У шостай, у шостай. Дык вось, пайшла Зіна па кабыліцу, а тая не даецца, круціць азадкам. Зіна ходзіць за ёй і ўгаворвае: «Якета, якетачка...» Конюх учуў, пасмяяўся пры людзях. Так і прыліпла да Зіны мянушка. А ці ж яна вінавата? Ёй гора, а людзям смех.

— Ат гора! — азваўся Сымон, трымаючы мяшок з парасём. Ён так і не садзіўся. — Выдумала сабе баба гора. Гаварыла б, як умела, ніхто б і не смяяўся.

— Ездзіў і я на Ракеце. Упартая каняка! За дзень і нервовую сістэму падарвеш, і вусы парудзеюць, — хлопец з руказаком прыгладзіў шматок чорных вусікаў.

— Віця, перастань, — з дакорам паглядзела на яго дзяўчына.

— Ну і як вам там працуецца? Відаць ніштавата, — кіўнуў дзядзька Сымон на руказакі з яблыкамі.

— Гэта нас цётка Яўхіміха ўзнагародзіла. Бульбу памаглі ёй выбраць. Брыгадзір для нас не заўсёды работу знаходзіць.

— А ці ж яе трэба шукаць, тую работу? — здзівіўся Сымон.

— Пэўна ж, яшчэ многа бульбы нявыкапанай. А хутка белыя матылі залётаюць.

— Ды ў іх там і за плугам і за капалкай збіраюць бульбу. За плугам брыгадзір болей піша, дык вясковыя за капалкай і не хочуць збіраць. Нас паставілі. А капалка паламалася. Чакалі-чакалі да паўдня — па хатах разышліся.

— Непарадак там у вас, — заключыў Сымон. — Гэта ж вам і на заводзе палавіну толькі заплаціць, і там нічога не заробіце.

— А нягож, парадак, — уздыхнула сінявокая жанчына. — Выгнаць бы таго брыгадзіра. Дзе брыгадзір гаспадарлівы, чэсны, там і работа робіцца. Хоць і людзей малавата — спраўляюцца. І помачы ніадкуль не чакаюць. А так — абы што.

— Мала такіх брыгадзіраў, як у вас, засталося, але трапляюцца. Вось у нас — парадак. Талковы брыгадзір. І старшыня таксама, — загаварыў дзядзька Сымон, асцярожна прысеўшы. — Кіраўніцтва — галоўнае.

— Ат, кіраўніцтва, кіраўніцтва! Самім трэба меней драмаць, а болей рабіць. Не дзеці! — усклікнуў «гусь» і пакруціў маленькай галавой, шукаючы падтрымкі.

— Канечне яно так. Ды толькі, думаецца мне, што і кіраўніцтва многа значыць. Вазьмі хоць нашага былога старшыню. Далёка пайшоў чалавек. У вобласці працуе. Калісьці прыехаў у наш калгас, старшынёй стаў. Чалавек хоць і чужы, а нічога, разабраўся, хто пупок баіцца надарваць, а хто да работы здатны. Толькі плаціць трэба, што хто зарабіў. І навёў парадак. Навёў. З тымі ж людзьмі. Нядаўна заглянуў з вобласці да нас. Боты гумавыя абуў і пайшоў, і пайшоў. Кажа, хачу сам усюды паглядзець, як гаспадарыце. Брыгадзір са старшынёй чуць за ім паспявалі!

Дзядзька Сымон дастаў пачак папярос, ды ўспомніў, дзе знаходзіцца, з апаскай глянуў на шафёра і зноў схаваў іх у кішэню.

На аўтобус наплываў сасновы лясок, на ўскрайку якога бялелі будынкі бальніцы.

Раптам аўтобус збочыў, спыніўся. Адчыніліся дзверцы. Сымонаў сват падхапіўся з месца — увесь гэты час ён драмаў:

— Што, прыехалі?

— Сядзі яшчэ. Бач, як цябе развязло. Нават не ведаеш, дзе выходзіць трэба, — супакоіў яго Сымон.

— Нічога. Перазімуем, гэта самае.

Па прыступках у аўтобус ускараскалася старая.

— Сынок, давязі да Ходасаў. Мне там, дзе кузня згарэла, злезці трэба, — папрасіла шафёра. Той дастаў білеты, адарваў адзін:

— Трыццаць капеек давай, бабка.

Старая, не спяшаючыся, раскруціла хустачку, а пасля паперку і пачала адлічваць грошы.

— Хутчэй, бабка, не затрымлівай.

— Грошы, сынок, не рыжыкі. Не пойдзеш у лес і не назбіраеш. Яна ўзяла білет, закруціла і яго ў хустачку.

— Дык мне сынок, да Ходасаў.

— Ведаю, ведаю.

— Там, ля згарэлай кузні...

Шафёр нічога не адказаў. Старая пастаяла побач, пачакала, а потым рушыла шукаць вольнага месца.

— Марыля, хадзі сюды, — паклікала яе жанчына ў шэрай хустцы.

— А бо, а бо! Ніначка, ты гэта? Даўно я цябе не бачыла, — ускліюнула бабка, сядаючы побач з Сымонавым сватам. Той больш не драмаў, а сонна глядзеў па баках.

— І я ж цябе даўно не сустракала. Куды ж гэта ты прыязджала?

— Ой, не дай бог нікому добраму. Ты маю Галю памятаеш, пэўна? На ферме каля цялят ад цямна да цямна топала, і ў дождж, і ў мароз — усё нічога было. А тут пачаў ля яе Макаркаў сын круціцца. Бывала, стану гаварыць: «Глядзі, Галя, Макарка малады цуды выробляў, і сын такі». Дзе там маці слухаць! Усе маладыя разумныя вельмі.

— Нічога, нічога, гэта самае. Мы таксама маладымі былі, — улез у гутарку Сымонаў сват. — Ці забыліся, як пелі. — І, хаваючы ўсмешку у вусах, зацягнуў хрыплаватым голасам:

**Ці ж я табе не казала,**
**Ці ж не гаварыла,**
**Не лажыся каля боку,**
**Будзе сын Гаўрыла.**

**А ты мяне не паслухаў,**
**Каля боку клаўся,**
**А цяпер яшчэ пытаеш,**
**Адкуль сын узяўся.**

Старая счакала, махнула рукой:

— Вярзеш ты, чалавеча, хто ведае што. — І прыгразіла: — Вось прыедзеш дадому, баба табе напяе!

Але той не слухаў, а скарагаворкай дабіваў сваё:

**Пытай, не пытай —**
**Бяжы за кумамі.**
**Ляжыць сын на пячы,**
**Трэпае нагамі.**

Старая адвярнулася, загаварыла цішэй:

— Дык вось, была дзеўка, як сыр, здаровая, а цяпер у бальніцы качаецца. Той шалапут, як даведаўся, што дзіцёнак будзе, збег некуды. Засталася Галя з малым, схуднела, сохнуць пачала. Толькі шчокі, бы ў агні, палалі. У бальніцу паехалі. Доктар, вучоны такі з віду, кажа: «Беркулёз у вашай дачкі». Узрадавалася я. Вот і дзякуй богу, кажу, што хоць не сухоты. Але аказалася — адна хвароба! — Марыля безнадзейна махнула рукой. — Вось і езджу.

Падумала і, усміхнуўшыся добрай старэчай усмешкай, дадала:

— А ўнучак харошанькі.

На адным прыпынку ў аўтобус уціснуўся шырокі ў плячах мужчына. Пасалавелымі слюдзянымі вачыма ён абвёў пасажыраў.

— А ну-ка, сядзьце цясней. Я таксама жадаю. Ён пералез праз чамаданы і гоцнуўся побач з дзяўчынай. Броўкі ў яе ўскінуліся вышэй, яна незадаволена зморшчылася, але змоўчала:

— Садзіся, мамаша, — ляснуў ён цяжкай рукой па чамадане, звяртаючыся да згорбленай старой, якая прабіралася ўслед за ім. Ён разваліўся, раскінуў полы скуранкі, а старая стаяла побач у нерашучасці і выцвілымі вачыма з дакорам глядзела на сына.

— Сядайце, бабулька, — прапанаваў хтосьці з пасажыраў.

Старая кіўнула галавой, не то падзякавала, не то згадзілася, асцярожна апусцілася на ражок чамадана:

— Нам недалёчка...

— Далёчка, недалёчка, мамаша, наша дзела. Можна не дакладаць, — адрэзаў сын, матлянуў галавой, а пасля ўтаропіўся на дзяўчыну, што сядзела побач: — Эх, люблю маладзенькіх ды хрупкіх.

Ён паспрабаваў аблапіць дзяўчыну, але яна падхапілася, тоненькім, настойлівым галаском сказала:

— Пусці!

— Ды ты не брыкайся, я асцярожна цябе прытулю.

Умяшаўся хлопец, якога дзяўчына назвала Віктарам. Ён адставіў руказак, падняўся.

— А ну, пусці яе! — сказаў спакойна.

— А то што?

— А то я так цябе прытулю, што самагонка з носа пальецца.

— Ну-ну, — паспакайнеў той, — цішэй на паваротах. Я тут усіх вас магу ў рог скруціць.

— Ты, таварыш, таго. Проці людзей голасу не падымай. Бачыў! — сказаў Сымон і патрос важкім кулаком.

Стала ціха ў аўтобусе, толькі натужна гудзеў матор. Прапала ахвота размаўляць, і ўсе сядзелі моўчкі і думалі кожны пра сваё.

Мужчына ў скуранцы драмаў. Старая маці яго сядзела побач, асцярожна прыткнуўшыся на чамадане. За вокнамі аўтобуса, як прывіды, праплывалі цёмныя дрэвы, хаты.

— А куды ж гэта вас ў такую непагадзь? — звярнуўся даўгашыі мужчына да старой.

— Гора носіць, чалавеча, — старая адказала неахвотна, зморшчылася ад нейкага ўнутранага болю, на вочы яе набеглі слязінкі. Яна прамакнула іх ражкамі хусткі. Мужчына зацікаўлена насцярожыўся, але больш не пытаўся.

Старая перачакала слёзы, загаварыла, нібы сама з сабою разважала:

— Сына вось пахавала. Старэйшага, Васілька свайго. Двое іх у мяне было сыноў: Васіль і Сцяпан вось. А цяпер няма майго Васілька. Адна я.

— Як гэта — адна? А ён.

— Сцяпан назад паедзе. У Сібір. Мяне заве. Але ж куды мне ад магілак родных!

Старая зноў прамакнула слёзы, змоўкла. Сын яе драмаў, разваліўшыся і закінуўшы галаву — яна дробна стукала аб жалезную парэнчу. Маці схамянулася, надлажыла над галаву сына сваю сухую руку з вузлаватымі пальцамі і вінавата паглядзела на пасажыраў, нібы просячы прабачэння.

Аўтобус імчаў і імчаў, і вёскі, і вялікія і малыя, заставаліся ззаду. Быццам дарога гэта — жыццё, а вёскі і хаты — гады і дні. Засталіся ззаду і Ходасы, і старая Марыля злезла каля спаленай кузні і знікла са сваімі турботамі ў шэрані асенняга вечара, — кароткі дзень непрыкметна згас.

Неяк адразу сцямнела, і аўтобус здаваўся невялічкім светлым астраўком сярод чорнай начы, які нясецца немаведама куды. Толькі час ад часу насустрач аўтобусу з цемнаты бліскалі дрыготкія агні хат, падміргвалі, нібы казалі:

— Шчаслівa вам, людзі.

---

лоўную ролю — Сцёпкі Баруты.

Мае пытанні прымусілі гаспадара пачаць падарожжа ў сваю маладосць...

Першым яго настаўнікам у Петраградскім інстытуце сцэнічных мастацтваў быў адзін з папулярных артыстаў кіно, «кароль экрана» Уладзімір Максімаў. Днём Георгій працаваў слесарам, электраманцёрам, а вечарамі бегаў у інстытут — разам з Мікалаем Чаркасавым, Юрыем Талубеевым і іншымі будучымі славутымі артыстамі.

Першы тэатр, у якім пачаў працаваць Самойлаў, называўся «Камедыя». Артыст падабаўся гледачам, яго заўважыла крытыка. І яшчэ — кінарэжысёр Уладзімір Гардзін. Калі пасля заканчэння карціны «Кастусь Каліноўскі» кіраўніцтва «Белдзяржкіно» прапанавала Гардзіну паставіць фільм па аповесці Я. Коласа, на ролю Сцяпана Баруты ён запрасіў Самойлава. Так у ліпені 1928 года артыст апынуўся ў вёсцы пад Барысавам, дзе здымалі «Песню вясны».

— Спецыфіку кіно я асвойваў хутка, — расказваў Георгій Ільіч. — Па-першае, таму, што Гардзін быў вельмі вопытны акцёр тэатра і кіно. Па-другое, нас — майго экраннага бацьку, вядомага тэатральнага акцёра Аляксандра Рокатава, і мяне нездарма пасялілі разам у сялянскай хаце, дзе мы і харчаваліся. Апраналіся мы толькі так, як мясцовыя жыхары. Хутка нас цяжка было адрозніць. Я нават пастараўся — навучыўся смаліць вялізныя самакруткі, хоць па ролі мне гэта непатрэбна было зусім. З маіх партнёраў больш за ўсё падабаўся мне Барыс Віктаравіч Платонаў, які іграў ролю рабфакаўца Шулевіча. Ужо тады ў ім адчуваўся акцёр яркага самабытнага таленту. Многа пазней я з асалодай глядзеў на яго ігру ў купалаўскай «Паўлінцы».

...Рэпеціруецца сцэна сустрэчы Сцёпкі з Алёнкай (яе ролю выконвала вядомая кіназорка Соф'я Якаўлева). Алёнка дае патрымаць Сцёпку свой падарунак за выдатную вучобу — томік вершаў Янкі Купалы. Артысту трэба было тут выказаць і зайздрасць, і вялікую павагу да кнігі, і любоў да яе гаспадыні, і каб пра ўсё гэта, не дай божа, Алёнка не здагадалася. Самойлаў пачынае круціць у руках кнігу, прыціскае яе да грудзей...

Гардзін ледзь прыкметна ўсміхаецца, гаворыць: «А можа, давай зробім так, га?» Ён бярэ з рук юнага акцёра томік Купалы недзе за самы яго ражок і ўздыхае...

Тады ж, у 1928 годзе, «Белдзяржкіно» раптам «разбагацела», займеўшы легкавы аўтамабіль для рэжысёра. Машына як дзве кроплі вады была падобна да «Антылопы Гну», якую ўвекавечылі Ільф і Пятроў.

— Раніцою яна ніяк не хацела заводзіцца, — усміхаецца Георгій Ільіч, — і шафёр доўга поўзаў перад ёю на каленях. Нарэшце яна пачынала паволі паўзці да месца здымак, але мы з асістэнтам рэжысёра Анцы-Палоўскім верхам на конях лёгка абганялі свайго рэжысёра. Пасля працы ўсё было наадварот: «Антылопа» ляцела, як звар'яцелая...

На здымках «Песні вясны» часам прысутнічаў Юрый Тарыч. Тут ён і прыкмеціў маладога артыста. Калі рэжысёр распачаў работу над фільмам «Да заўтра» аб рэвалюцыйнай барацьбе моладзі Заходняй Беларусі, перад кінакамерай у ролі гімназіста Язэпа Шумейкі быў Георгій Самойлаў.

— На рэпетыцыях у вольны час паміж здымкамі, — успамінае артыст. — Юрый Віктаравіч часта чытаў нам творы на беларускай мове, якую некаторыя з нас, артыстаў, не ведалі. Так ён уводзіў нас у атмасферу беларускага кінатвора, хоць і нямога. А чытаў ён так, што мы ўсе з зачараваннем слухалі. Я бачыў Тарыча калісьці ў ролі Напалеона ў п'есе «Мадам Сан-Жэн» і з той пары захапляўся ім як акцёрам. Некалькі гадоў назад Юрый Віктаравіч мне па тэлефоне паведаміў, што рыхтуецца агучваць «Да заўтра». Не паспеў ён ажыццявіць задуманае...

Быў і яшчэ адзін фільм «Белдзяржкіно», у якім прымаў удзел Самойлаў — «Рубікон» (1931 год).

Цяпер ён адзін з вядучых артыстаў пушкінскага тэатра, які выступае ў Мінску. Талент яго ззяе, як і раней.

Ільля РЭЗНІК.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Георгій ЮРЧАНКА

## ГАРАДСКІ СЯЛЯНЧЫК

*Мікола РАКІТНЫ*

Час — ён гэтакі. То гундоса палыбіцца даўгаднеўе, то цупка выструніцца, бытта пачасцёўшчык, то іногды ўгрындзіцца: дзедуган ты, няўго ж хто. І тады амаль малітоўна набягае тое неўпрыкмець, дагодліва пераносіць туды, у хлапецтва, прымушае ўспамінкаваць.

Даўняя дзедаўшчына: селішча наводшыбе, гулкая брама пад шопай, на вільчаку бляшасты певень, сані на бэльках, карыта ля калёс. Там і жаніхаваць я пачаў: якраз на сёмуху. Прыхапкам бегаў у вёску да здвіжання, шчыгіляў у новых ботах. Было ўпаданне за падравесніцай Вулькай, чапурыстай крамянай таўстушкай. Праўда, на закругленне не вёў, не гірычыўся. Так, пацягайства было на ўме, беганкай адбываў.

Прышалыгаўшы з палюбошчаў, нікаў цемрай па палічках, лез у печ, у адзін мент хлапатліва ядаў з паліванай варэйкі крупнік пшаняны, з непаліванага цугунка боршч грыбняны. А на закусь даставаў з пазухі колькі пабурэлых у лежцы, але тугенькіх гнілак, паядаў з радасным умілением.

Апоўначы качаўся глеўкаваты на роднай мякаці старога кажуха. Ляжаў пашці праўцом, бытта ў нямозе, ацішэлы і размякчэлы ўсёй сваёй мядзведзістай сілай.

А назаўтра браў кашоўку... Эх, бярозкі-арэшнічкі!.. Выкрочваў на цэлы дзень у лес па свайму халасцяцтву. Паветра — мацак душы. Завабны одум не шкаджаў налоўчана падымаць абабкі. Хадзіў да спатнеласці, а лёгката не кідала.

Так, было... Толькі што гэта я ў мудроты ўкінуўся, жвавы клапатун. Бягуць гады, шкрабуць, мітрэнжаць душу. Канешне, ухопістасць яшчэ ёсцека, чырванінка на шчоках іграе. Але ж калі я цяпераka дастану без вілак з печы крупеню? Ці хоць бы кулеш нейкі? Газ кругом, печ як без патрэбы. Аб ставы не спаткнешся ацёмначы. І парсючку не вынясеш, замяшаўшы. Бо дзе той у горадзе хлевушок. Зяць вунь да акспентуры падаўся — няёмка з парсючком... Атаўкі не кашанеш...

Угу, не тое няперач, далібог не. А быў разонт, быў...

Марцін КОЎЗКІ

## ФРАЗЫ

*Ноч — палова сутак? Раскажыце пра гэта за Палярным кругам.*

□

*Можа, найзлейшыя ворагі і паходзяць з былых сяброў, але адкуль у мяне возьмуцца сябры, калі я не нажыў сабе ворагаў?*

□

*Несапраўдны Дон-Жуан: здраджвае з кожнай самому сабе.*

□

*Заўсёды ёсць вятры, што дзьмуць не туды.*

□

*Кульгае, бо стаў на хадулі? Не, стаў на хадулі, бо кульгае.*

□

*На памылках вучацца? Чаму ж тады не вучаць памыляцца?*

Мікола ВЯРШЫНІН

## РАЗМОВА З-ЗА КУСТА

*БАЙКА*

**Сеў Заяц за кустом сабе,**
**А міма Воўк бяжыць.**
**Касы і кажа:—Дай рубель,**
**Калі ты хочаш жыць!**

**Здзівіўся Шэры:—Што з табой!**
**А Заяц:—Дай рубель!**
**Інакш хадзем за куст на бой,**
**Там будзе горш табе.**

**Пайшлі за куст. Мінут праз пяць**
**Адтуль ледзь выпаўз Воўк.**
**Шыбнуў рубель, ды ну ўцякаць,**
**Зубамі толькі шчоўк!**

**Вось ля куста сеў Зайка зноў.**
**Глядзіць—Мядзведзь брыдзе.**
**— Давай рубель без лішніх слоў,**
**А то за куст хадзем!**

**Мядзведзь раз'юшан:—Дам разгон,**
**Нахабнік ты такі!**
**Праз пяць хвілін ледзь выпаўз ён,**
**Ды чухае бакі.**

**Аддаў рубель, пайшоў хутчэй**
**Далей ад той бяды.**
**А тут бяжыць Ліса яшчэ.**
**— Гэй, рыжая, сюды!**

**Давай рубель ды прэч дамоў,**
**А то пайшлі за куст.**
**Там галава зляціць далоў,**
**Касцей пачуеш хруст.**

**— Ну, што з рублём, вось тры якраз**
**(Каб згінуў ты хоць дзе).—**
**Ліса заўважыла ў свой час:**
**Леў за кустом сядзеў.**

Аляксандр АЛЯКСЕЙЧЫК

## ПАТРАБУЕЦЦА НЯНЬКА

Я АДЧЫНІЎ дзверы. Перада мной стаяла дзяўчына. Вельмі прыгожая, маладая, з вялікімі добрымі вачыма.

— Я да вас па аб'яве. Вам патрэбна нянька, так?

Я зразумеў, каго яна нагадвае: калі б ёй прыбавіць гадоў пяцьдзесят, яна б была вылітая Арына Радзівонаўна.

— Так,—сказаў я,—нам патрэбна няня.—Я не мог паверыць, што дзяўчына на парозе кватэры — сама рэальнасць, бо мы шукалі няньку больш за паўгода. Запрасіўшы яе ў кватэру, я спытаў: — Вы можаце быць з нашым сынам увесь дзень?

— Вядома, — усміхнулася яна.—Я буду гуляць з ім столькі, колькі патрэбна. Ды вы не хвалюйцеся, я гэтую работу ведаю.

— Але ж яго трэба яшчэ і накарміць,—нагадаў я.

— Я і накармлю, і пакладу спаць. Усё зраблю, што трэба.

Я не верыў сваім вушам.

— Спаць вы будзеце вунь у тым пакоі.

— Што вы, навошта турбавацца? Я і на раскладушцы, у кухні.

— А мыць сёе-тое вы ўмееце? — баязліва спытаў я.

— Умею, вы не хвалюйцеся, — паўтарыла яна яшчэ раз.

Я папрасіў яе пачакаць і пабег да суседзяў, каб пазваніць жонцы. Калі я, хвалюючыся, расказаў ёй пра ўсё, яна чамусьці не падтрымала майго энтузіязму.

— Што, яна яшчэ і гатаваць умее? Дзе ты бачыў такую няньку? Нейкая, відаць, прайдзісветка, — зрабіла вывад жонка. — Ідзі хутчэй дадому, пакуль яна цябе не абакрала. Скажы, што нянька нам ужо не патрэбна.

Я прыйшоў і, чырванеючы, сказаў, што жонка ўжо знайшла няньку.

— Нічога,—адказала дзяўчына, — якраз у суседнім доме таксама шукаюць нянькі. Да пабачэння, — развіталася і ціха выйшла.

Раптам зазвінеў тэлефон. Я прачнуўся, працёр вочы, схапіў трубку і пачуў:

— Я да вас па аб'яве. Вам патрэбна нянька?

— Гатаваць можаце?—спытаў я суха.

— Магу,— адказала трубка.

— Спаць на кухні,—працягваў я, — бялізну мыць...

— Добра, добра...

Тут я ўспомніў тое, што казала жонка, і закрычаў:

— Не, нам нянька ўжо не трэба, жонка знайшла!

Ядвіга РУТКОЎСКАЯ

## ЧАЛАВЕКУ ТРЭБА ДАПАМАГЧЫ

— Маё шанаванне пану дырэктару!—начальнік аддзела кадраў сеў перад дырэктарскім сталом з пахмурай усмешкай на твары.

— Ну, што новага?

— Новага? Нічога. Зноў Кавальскі.

Дырэктар скамячыў і выкінуў у кошык для смецця пачаты загад, які, магчыма, унёс бы істотныя змены ў штатны расклад яго ўстановы.

— Зноў?

— На жаль, пан дырэктар.

— Але ж Кавальскі даваў чэснае слова!

— Цяпер таксама даў.

— Нечувана! Паверылі, пакрылі растрату, а ён...

— ...працуе. Не сказаць, каб шкоды шмат робіць. Толькі вось недастача.

— Не магу больш цярпець гэтага!

— Недастача—чалавечая слабасць. Пану дырэктару гэта добра вядома.

— Але ж не кожны квартал!

— Пан дырэктар мае рацыю. Перабаршчыў Кавальскі.

— Скажыце лепш, што цяпер рабіць?

— Таму і прыйшоў да пана дырэктара. Дырэктарская галава—не мая.

— Ці не лічыце вы, што я пакрыю яго недастачу з асабістага фонду?

— Ну, што вы! Божа барані!

— Кавальскі павінен панесці пакаранне!

— Жонка!—усхліпнуў начальнік аддзела кадраў.—І двое дзяцей. Яны ні ў чым не вінаватыя.

— Якая жонка? Тая, што была на ёлцы? Бландзінка з чорнымі вачыма ў зялёнай сукенцы? З радзімкай на шыі?

— Так, так. З радзімкай.

— А апранаецца, як жонка звычайнага прадаўца.

— Вось, вось. Трэба зразумець яго становішча, пан дырэктар.

— Та-а-к... Фатальная гісторыя!

— Нават сэрца шчыміць. Дзеці. Двое. І жонка. З радзімкай, пан дырэктар.

— Можа, Кавальскі паступова выплаціць? З зарплаты?

— Пан дырэктар, калі ён выплаціць такую суму?

— Ну што ж рабіць?.. Давядзецца павысіць яму зарплату.

З польскай мовы пераклаў
М. НАВІЦКІ.

Антон РАЯНТОВІЧ

## СРЭБНЫ РУБЕЛЬ

Зусім натуральна, што чалавек перад пасадкай у самалёт хвалюецца. Яно, канечне, дарэмна, але ж — хвалюешся, бо самалёт—гэта усё-такі самалёт. Ды я, прызнаюся, не так хваляваўся перад пасадкай і ў час палёту, як на зямлі. Справа ў тым, што са сваім найлепшым сябрам не бачыўся я цэлыя тры гады. За гэтыя гады мой Мікола стаў масцітым мастаком. Яго карціны не толькі ў рэспубліцы, а на ўвесь Саюз вядомыя сталі. Ды што ў нас?! Вось нядаўна ён за-за мяжы вярнуўся. І не з турысцкага падарожжа, а з выстаўкі ўласных твораў. А я што? Радавы нафтавік-інжынер. Таго і глядзі, Мікола і прызнаваць мяне не захоча.

Аднак мае такія думкі аказаліся дарэмнымі. Адразу з самалёта трапіў я ў абдымкі сябра. Мікола мяне нават расцалаваў. А потым падхапіў мой саквояжык і да таксі.

Шыкоўная новая «Волга» за колькі мінут дамчала нас да сябравага месца жыхарства. Спыніліся. Мікола падаў шаферу пяцёрку і вылез з машыны. Вадзіцель адлічыў рэшту і праз акенца працягнуў Міколу. Той абыякава махнуў рукой, зноў ухапіў мой саквояжык і подбегам пусціўся да пад'езда. Шаферава рука з грашыма знікла, таксі рванулася з месца. Я паціснуў плячыма. «Багата жыве Мікола,—падумалася,—бач, якія купецкія замашкі: рэшты не ўзяў». Але —сябру нічога не сказаў.

Нешта дні праз тры па маім прыездзе мы былі ў тэатры. Мы—гэта Мікола з жонкай і я. Пасля спектакля пайшлі ў гардэроб па свае капелюшы. Мажны вусаты дзядзька з падкрэсленай ветлівасцю падаў нашу няхітрую апратку. У тую ж хвіліну Мікола нейкім своеасаблівым, няўлоўным рухам паклаў на далонь вусатага папяровы грашовы знак—рубля ці трайка. Не менш спрытна гэты грашовы знак знік у кішэні форменых штаноў гардэробшчыка. Я не вытрымаў, запытальна зірнуў у вочы сябра, але ён толькі ўсміхнуўся.

Назаўтра была нядзеля, і мы вырашылі паехаць на рыбалку. Мікола выкаціў з гаража сваю «Волгу». Мы ўладкавалі ў машыну свой рыбацкі рыштунак і неўзабаве былі ўжо за горадам.

Едзем, размаўляем. Аж бачым: на ўзбочыне шашы стаіць маладая пара і «галасуе». Мікола зірнуў на мяне. Я згодна кіўнуў галавой. Скрыгатнулі тармазы. Маладыя людзі ўтульна размясціліся на заднім сядзенні.

Хвілін праз дваццаць хлапец паблажліва паклаў руку на Міколава плячо і прамовіў:

— Спыніце, старына. Тут мы выйдзем.

Мікола спыніў машыну. Нашы пасажыры выйшлі. Хлопец важна ступіў крок наперад і падаў Міколу праз акенца срэбны рубель. Мікола неяк дзіка глянуў на хлопца — пэўна, хацеў нешта сказаць, ды не змог. Хлопец, злавіўшы ягоны позірк, збянтэжыўся:

— Прабач, бацця, больш няма. Ды і язды той было...

Ён павярнуўся і пабег даганяць сваю сяброўку.

Хвіліны тры Мікола сядзеў нерухома. Потым, нічога не гаворачы, крута развярнуў машыну. Мы паімчаліся назад, у горад...

Юшкі мы ў той дзень усё ж пакаштавалі—рыбы купілі ў магазіне. Толькі не за той срэбны рубель. Яго Мікола паклаў на свой пісьмовы стол. Так, на памяць...

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 07789

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 33-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.